**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№23(687)**
**6 чэрвеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



1 чэрвеня ў Браславе прайшоў Фэст сярэднявечнай культуры «Меч Брачыслава». Прыехалі прадстаўнікі рыцарскіх клубаў з Мінска, Віцебска, Полацка, Краславы (Латвія) і, нават, Смаленска. Сотні браслаўцаў і гасцей горада прыйшлі на Замкавую гару, каб паглядзець на рыцарскія турніры, спаборніцтвы, паслухаць старадаўную музыку. Аднак сёлета быў зменены фармат Фэсту – заміж двух дзён, як гэта было ў мінулыя гады, ён доўжыўся ўсяго адзін у межах фестывалю «Браслаўскія зарніцы». *Фота Ул. Скрабатуна.*

## «Не пакідайце дзяцей адных!»

**З мэтай прыцягнення ўвагі да праблемы дзіцячага свавольства з агнём і гібелі дзяцей на пажарах, зніжэння колькасці надзвычайных сітуацый з удзелам дзяцей і забеспячэння іх агульнай бяспекі (дома, на вуліцы, адпачынку, вадаёме і інш.) 1 чэрвеня ў г. Глыбокае праходзіла прафілактычная акцыя «Не пакідайце дзяцей адных!», прымеркаваная да Міжнароднага Дня абароны дзяцей.**



Дадзеная акцыя ўяўляла сабою досыць маштабнае мерапрыемства, разлічанае на наступную мэтавуюаўдыторыю: дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту, іх бацькі; мерkavалася масавасць (як удзельнікаў, так і гасцей), відовішчнасць (канцэртная праграма, творчыя нумары, яркая атрыбутыка), забаўляльныя моманты (дэманстрацыя аварыйна-выратавальнай тэхнікі і абсталявання), распаўсюджванне навучальнай навочна-выяўленчай прадукцыі, а таксама інфармацыйнае напаўненне (прафілактычныя гутаркі).

**М. Крывёнак,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС.*



Бешанковіцкі раён

# Бераг левы – бераг правы

■ Чэслаў Якубовіч

**На адной з самых хуткаплынных у Беларусі рацэ Заходняя Дзвіна пэўныя праблемы маюць жыхары яе блізляжачых населеных пунктаў пры адсутнасці мастоў.**

З такімі цяжкасцямі сутыкаліся да нядаўняга часу жыхары Верхнядзвінска, а ў самым малым горадзе краіны Дзісне дагэтуль вымушаны карыстацца паромнай пераправай, каб не ездзіць далёка ў аб'езд. А вось жыхароў райцэнтра Бешанковічы напрыканцы мая зноў выручылі ваенныя. Ужо ў пяты раз спецыялізаваны 259-ты асобны мабільны чыгуначны батальён усяго за трое сутак узвёў там часовы пантонны мост. Дарэчы, воіны гэтага падраздзялення падобным чынам пабудавалі 46 мастоў рознага прызначэння па ўсёй краіне. Калі раней адсюль, каб дабрацца ў суседні Шумілінскі раён, мясцовым жыхарам прыходзілася ездзіць у аб'езд за 100 км, трацiць паліва і час. Зараз водная пераправа даўжынёй 180 метраў і шырынёй 4 м праслужыць людзям да снежня, у залежнасці ад наступлення моцных халадоў. Для абслугоўвання вайсковай пераправы, па якой па чарзе могуць ездзіць і грузавікі да 40 тон, тут пакінулі каменданцкі ўзвод. З іншага боку пантанёры здалі і экзамен на баявую вывучку ў мірных мэтах па заказе дарожнікаў "Белаўтадора". Нават калі летам у спёку ўзровень вады ў рацэ спадзе, на бяспецы дарожнага руху гэта не скажацца, бо салдаты зрабілі надзейныя пад'езды і могуць рэгуляваць даўжыню моста. Саму ж пераправу адкрылі ва ўрачыстай абстаноўцы, батальён паказаў свае тэхнічныя ўменні на вадзе і парадаваўся канцэрту ў знак падзякі за выкананую працу.

Пастаўскі раён

# Узнік кадравы голад?

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ нядаўна ў нас ганарыліся нізкім узроўнем беспрацоўя і павелічэннем штогод колькасці новых працоўных месц.**

Аднак зараз і ў глыбінцы сутыкнуліся з тым, што свабодных вакансій хапае не толькі ў сельскай гаспадарцы, але і практычна іх няма кім запоўніць. Вось і ў Пастаўскім раёне стала востра не хапаць кваліфікаваных работнікаў, хоць узровень беспрацоўя знізіўся да 0,9 % і летась стварылі амаль 300 новых рабочых месц. Сапраўды дэфіцытнай стала прафесія электраманцёра, аднаму прадпрыемству раённых электрасетак зараз патрабуецца 8 такіх спецыялістаў. Яшчэ 2 гады назад там была чарга на працаўладкаванне. З падобнай праблемай сутыкнуўся мясцовы вузел электрасувязі, адзін з лепшых у галіне, якому не хапае для абслугоўвання сучасных электронных АТС і вузлоў перадачы дадзеных 6 электрамеханікаў сувязі. Варапаеўскі завод ЖБВ ніяк не можа знайсці ніdзе 6 кваліфікаваных фармоўшчыкаў, хоць і можа забяспечыць ім вельмі высокую зарплату, дзякуючы выгаднаму заказу на апоры ліній ЛЭП для Расіі. Як і ў іншых рэгіёнах вобласці, на Пастаўшчыне стаў адчувацца адток патрэбных кадраў на працу за мяжу, дзе больш высокія заробкі. Таму патрабуюцца цэлыя брыгады будаўнікоў, вадзіцеляў аўтобусаў і слесараў па рамонце аўтатэхнікі, швачак. Ужо і ў магазінах горада перыядычна ўзнікаюць вакансіі прадаўцоў, цяжка знайсці для працы на вёсцы таксама паштальёнаў і іншых работнікаў.

Віцебскі раён

# Дарога да святыні

■ Станіслаў Раманчук

**Перад распадам СССР практычна ўсюды толькі ў асобных месцах дзейнічалі рэдкія хрысціянскія храмы.**

Не стаў выключэннем і абласны цэнтр Віцебск, які нагадваў быццам "выпаленую пустыню" хрысціянства, бо знішчылі камуністы ўсе ранейшыя цэрквы і касцёлы. А вось днямі ў горадзе ўрачыста асвяцілі ўжо трэцюю па ліку каталіцкую святыню, прыгожы касцёл Святога Духа. Абрад кансекрацыі новага касцёла правёў асабіста арцыбіскуп, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч у прысутнасці шматлікіх святароў дыяцэзіі і яе часовага апостальскага адміністратара Францішка Кіселя.

Гасцямі масавых урачыстасцей таксама сталі высокая духоўная асоба каталіцкага касцёла з Бразіліі і кіраўнік беларускіх грэка-каталікоў Сяргей Гаек, шматлікія вернікі. Па традыцыі арцыбіскуп адчыніў святыню, акрапіў асвенчанай вадой амвон і сцены яшчэ аднаго храма ў цэнтры Віцебска. Дарэчы, на гэтым месцы даўно планаваўся фізкультурнааздараўленчы комплекс, але пераўтварыўся ў доўгабуд, сапраўдныя руіны бетону. Правільна паступілі ўлады, што перадалі падмурак вернікам, а справай пабудовы храма заняўся былы біскуп Віцебскі Уладыслаў Блін пры падтрымцы ордэна сальватэрыянаў. Новы храм стаў яшчэ адным з цэнтраў духоўнага жыцця гараджан, вернікаў каталіцкай канфесіі, якіх сярод беларусаў ужо 2,5 мільёны.

# Аб самым надзённым

## У АБНОЎЛЕНЫ ПРАЦОЎНЫ КОДЭКС БЕЛАРУСКІЯ ДЭПУТАТЫ ЎНЕСЛІ АМАЛЬ 170 ЗМЕН І ДАПАЎНЕННЯЎ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Упершыню ў Працоўным кодэксе РБ прапісалі, што чалавек на сваім працоўным месцы не можа працаваць болей 12 гадзін у суткі. На працягу працоўнага тыдня наймальнік не мае права прымушаць працаваць свайго работніка звышурочна больш 10 гадзін.**

У гэтым годзе з-за асаблівасцей позняй вясны ярявая сяўба ў Беларусі прайшла са значным адставаннем ад папярэдніх графікаў на плошчы амаль 0,5 мільёна гектараў. На адзін час прыпалі тэрміны сяўбы ранніх, позніх і яравых культур, тэрміны палявых работ на поўдні і на поўначы краіны. Прыпазніліся паўсюдна з пасевамі лёну, бульбы, кукурузы на сілас, а галоўнае, што і ўдзельнікі напружаных работ у полі таксама стаміліся, працоўны не лічачыся з затрачаным часам у кабінах сваіх трактароў.

У нас прынята заўсёды спяшацца на збожжавых палетках і, здараецца, не думаць аб здароўі людзей, якасці работ у полі, робячы стаўку найперш на працоўны гераізм. Аднак з нядаўняга часу кіраўнікам гаспадарак, абласцей і раёнаў прыйдзецца болей лічыцца з працоўным заканадаўствам, паколькі на сваёй майскай сесіі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ унеслі ў першым чытанні даволі істотныя змены. У авальнай зале парламента было ўнесена такіх паправак каля 170 з падачы міністра працы Беларусі Марыянны Шчоткінай.

Сярод самых істотных: парламентары павялічылі да 180 гадзін у год максімальны памер працы звыш зацверджаных норм. Упершыню ў Працоўным кодэксе РБ прапісалі, што чалавек на сваім працоўным месцы не можа працаваць болей 12 гадзін у суткі. На працягу працоўнага тыдня наймальнік не мае права прымушаць працаваць свайго работніка звышурочна больш 10 гадзін. Ва ўрадзе пастараліся зрабіць дзеючае беларускае працоўнае заканадаўства гібкім і адпавядаючым міжнародным крытэрыям у галіне працы.

Па патрабаванні Канстытуцыйнага суда РБ (ён нарэшце заявіў пра сябе пасля доўгага маўчання) адменены меры дыскрымінацыйнага парадку пры прыёме на работу. Цяпер пры працаўладкаванні ўжо нельга будзе нікому ўводзіць абмежаванні па ўзросце, напрыклад, бяром на работу асоб не старэй за 30 год. І з месцам жыхарства дэпутаты разабраліся кардынальна. У райцэнтры альбо горадзе болей не могуць спасылацца, што ім забаронена прымаць на працу людзей з сельскай мясцовасці, з тых жа калгасаў.

Канешне, такая практыка прадоўжыцца, але не афіцыйна, бо пакрыўджаны работнік можа цяпер аспрэчыць такую адмову аб прыёме на работу праз суд. У рэкламе працоўных вакансій болей не стануць змяшчаць указанні аб узроставых абмежаваннях. Цяпер любы працоўны бацька альбо іншы родны мае права на прадастаўленне водпуску аб доглядзе за малым дзіцём. Не мае ніякага значэння пры гэтым, кім працуе маладая маці, альбо вядзе індывідуальны бізнес, з'яўляецца рамеснікам, вядзе аграсядзібу.

Прагрэсіўныя змены ўнеслі заканадаўцы ў Працоўны кодэкс, якія датычаць аплаты працы прафесійных спартсменаў у выпадку атрымання імі траўм, разрыва датэрмінова працоўных кантрактаў, альбо калі яны падаюць пад дыскваліфікацыю. Памеры кампенсацый і выплаты атлетам і іх трэнерам будуць вызначацца загадзя ў працоўных кантрактах. Змяніўся таксама парадак заключэння тэрміновых працоўных дамоў у малых арганізацыях, з мэтай спрашчэння бухгалтарскага ўліку адмянілі запаўненне абавязковых камандзіровачных пасведчанняў.

Усё гэта правільна, тым больш Беларусь цяпер сутыкнулася з даволі маштабнай працоўнай міграцыяй за мяжу. Некаторыя спецыялісты ўказваюць, што за граніцай працуе ўжо мільён, а можа і болей суайчыннікаў. Раней прасцей было знайсці працу ў буйных гарадах, беларускай сталіцы, а цяпер і там вакансій шмат, і ў правінцыі можна знайсці любую работу. Аднак там заробкі невысокія, як правіла, і моладзь не хоча ўжо гарбаціцца за нейкія 3 млн. рублёў у месяц на рукі.

Тым часам жыццё ідзе наперад, а вось рост беларускага ВУП замарудзіўся сёлета. Магчыма, такія змены ў працоўным заканадаўстве прыспешылі таму, што Беларусь пасля чатырохгадовага перапынку аднавіла шматступенчатыя перамовы аб уступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, куды да канца года паабяцалі прыняць і казахаў, а нашы перспектывы яшчэ аддаленыя. З іншага боку кругом адны змены і наваўвядзенні, што толькі паспявай за імі сачыць.

Напрыканцы вясны ў нашай краіне пачаў дзейнічаць і новы механізм фінансавання будаўніцтва жылля з дзяржпадтрымкай. Былі выяўлены і шэраг сур'ёзных недахопаў у працы прыватных медцэнтраў і дзяржаўных бальніц. Хочуць забараніць поўнасцю курэнне ў грамадскіх месцах. Нашай краіне летам патрэбна будзе выплаціць 630,3 млн. долараў па ранейшых пазыках. Адчуваецца ў Беларусі і недахоп маладых высокакваліфікаваных кадраў упраўленцаў, і нізкая падрыхтоўка многіх спецыялістаў, і таму абнаўленне працоўнага заканадаўства патрэбна.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 06.06.13 | | | | Пятніца 07.06.13 | | | | Субота 08.07.13 | | | | Нядзеля 09.06.13 | | | | Пнд.10.06.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +21 | +25 | +20 | +13 | +21 | +23 | +19 | +11 | +18 | +23 | +19 | +13 | +18 | +20 | +17 | +10 | +14 | +18 |
| Ціск | 750 | 750 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 747 | 746 | 745 | 745 | 744 | 743 | 743 | 742 | 741 | 740 |
| Вільготнасць | 92 | 73 | 47 | 71 | 100 | 76 | 52 | 64 | 87 | 71 | 45 | 67 | 88 | 77 | 67 | 65 | 88 | 76 | 55 |
| Вецер м/сек | 3 Пн | 2 Пн | 3 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн-З | 3 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 1 Пн | 1 Пд-У | 1 Пд-З | 6 З | 4 З | 4 З | 5 З | 8 З |

## Дзень за днём

**По росце цэн сёлета беларусы зноў сталі "першымі" сярод дзяржаў былога СССР. У Беларусі плануюць забараніць курэнне ва ўсіх грамадскіх месцах, пачалі таксама распрацоўку адпаведнага закона. З-за позняй вясны палявыя работы на сяўбе сёлета завяршыліся значна пазней звычайнага. З ліпеня беларусы стануць карыстацца дадатковым еўрапейскім кароткім нумарам служб дапамогі МНС – 112, як з мабільнікаў, так і са стацыянарных тэлефонаў. У гэты веснавы прызыў у воінскія часці накіравалі амаль 45 тысяч навабранцаў, а сярэдніх школы закончаць неўзабаве ў Беларусі каля 60 тысяч вучняў 11-х класаў, на 4 тысячы меней, чым летась.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Рэжым Б. Асада ніяк не жадае ісці ў адстаўку і пачаў плаціць Расіі за пастаўкі зенітна-ракетных комплексаў С-300 на выпадак магчымых авіяўдараў па сваіх базах.

**ЗША**. Беспрацоўе ў краіне знізілася да самага нізкага (7,5 %) за апошнія 4 гады ўзроўню, толькі ў красавіку знайшлі сабе працу яшчэ 165 тысяч амерыканцаў, эканоміка расце.

**Расія.** Па краіне пайшлі чуткі, што экс-міністр фінансаў А. Кудрын да канца года можна замяніць Д. Мядзведзева на пасадзе прэм'ера пры пагаршэнні эканамічнай сітуацыі.

**Украіна.** Урад краіны падтрымаў законапраект аб масавым продажы траўматычнай зброі грамадзянам з дазволу міліцыі пасля здачы спецыяльных экзаменаў і пры ўмове добрых паводзін.

**Венесуэла.** Пасля нядаўняга скачку цэн і перабояў з прадуктамі, таварамі ўрад краіны закупіў яшчэ 50 млн. рулонаў туалетнай паперы, на якую таксама ўзнік ажыятажны попыт

**Японія.** Самай паспяховай кампаніяй у Азіі стаў аўтамабільны канцэрн Toyota, які апярэдзіў карэйскі Samsung з прыбыткам 13 мільярдаў долараў, у І-м квартале прадаў 2,4 мільёна аўто.

**Польшча.** Былы кандыдат у прэзідэнты РБ Алесь Міхалевіч, які атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі, абараніў тут дысертацыю па атрыманні вучонай ступені доктара навук.

**ЗША.** Па ўказанні прэзідэнта звольнілі з пасады дырэктара падатковай службы краіны Сцівена Мілера за дадатковыя скандальныя праверкі прадстаўнікоў і арганізацый апазіцыі

**Пакістан.** Пры спробе рабавання ноччу ў правінцыі Сінд невядомыя забілі аднаго з лідараў буйной партыі, выбары ў парламент выйграла апазіцыя экс-прэм'ера Н. Шарыфа.

**Францыя.** Лідар правага "Нацыянальнага фронту" Марын Ле Пэн атрымала цяжкую траўму пасля падзення ў пусты басейн, яна пакуль не можа самастойна перасоўвацца.

**Літва.** Акруговы суд Вільнюса прызнаў 20 замежных грамадзян у якасці датычных да трагічных падзей зімой 1991 года, калі пры штурме тэлебашні было забіта 14 літоўцаў.

**Францыя.** Падчас 66 міжнароднага кінафестывалю ў Каннах з сейфа аднаго з гасцінічных нумароў злодзеі ўкралі залатых ювелірных упрыгожванняў на суму звыш 1 мільёна долараў.

**Карэя.** Сродкі масавай інфармацыі краіны паведамілі з дасведчаных крыніц, што ў лідара паўгалоднай КНДР акрамя законнай малой дачкі ёсць яшчэ дзве тайныя, народжаныя іншымі жанчынамі.

**ЗША.** Сусветная кіназорка А. Джолі зрабіла аперацыю па ўдаленні малочных залоз, каб не захварэць на рак, маці 6 дзяцей пойдзе на яшчэ адно хірургічнае ўмяшальніцтва.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск заклікаў уплывовых палітыкаў свету ліквідаваць культ грошай і аказаць больш дзейсную дапамогу бедным і абяздоленым людзям на планеце.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Дырэктар НДІ Мінісрэрства эканомікі эканомікі РБ А. Чарвякоў заявіў, што Беларусь прамаргдзіла з завеёвай альтэрнатыўных рынкаў збыту і разам з Расіяй можа трапіць у стагнацыю.

**Баранавічы.** Расійская федэральная лабараторыя ў г. Уладзіміры пацвердзіла дыягназ калег з Беларусі аб прычынах масавай гібелі свіней на комплексе "Усходні" (не чума).

**Мінск.** Амаль 392 тысячы непрыватызаваных кватэр, як паведаміў міністр ЖКГ Беларусі А. Шорац, праз год будуць пераведзены ў разрад камерцыйнага жылля і новай аплаты.

**Ліда.** Спецыялісты Беларускай і Літоўскай чыгунак сталі прапрацоўваць праект па запуску дызель-поезда да Вільнюса, калі запрацуе пагадненне аб бязвізавым руху ў зоне 50-кіламетровай зоне.

**Мінск.** За зацягванне тэрмінаў здачы новага будынка музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны страціў працу яго дырэктар С. Азаронак, хоць больш вінаваты ў гэтым будаўнікі.

**Гродна.** Банк развіцця Беларусі адкрыў у абласным цэнтры першы свой філіял, бо ў вобласці фінансуецца 15 буйных дзяржаўных праграм, на чарзе мадэрнізацыя трасы М6.

**Мінск.** Хоць тэрміны закрыцця для патрэб "Газпрама" аўтавакзала "Маскоўскі" не вызначылі, аўтастанцыі ў мікраараёне Уручча перадалі для пашырэння ўчастак 1,2 га.

**Светлагорск**. Міністэрства абароны РБ выказала спачуванні родным хлопца са Светлагорска, які трагічна загінуў перад самым звальненнем у запас з асобнага палка сувязі ва Уруччы.

**Мінск.** Прадукцыя сталічнага лікёра-гарэлачнага завода "Крышталь" увайшла зноў у топ-10 гарэлкі, якая найлепей прадаецца ў свеце, летась аб'ёмы вытворчасці выраслі на 12 %.

**Пружаны.** Абурэнне многіх гараджан выклікаў дзіўны факт пахавання на мясцовым мемарыялы ахвяр Вялікай Айчыннай вайны жонкі аднаго з "ганаровых грамадзян раёна".

**Мядзель.** Днём у вёсцы Старлыгі 80-гадовы пенсіянер-дачнік з Мінска разам са знаёмай равесніцай з Літвы стаў паліць смецце, але агонь перакінуўся і знішчыў яго жылы дом.

**Брэст.** Пасля працяглай хваробы ва ўзросце 33 гады пайшоў з жыцця адзін з вядучых акцёраў мясцовага тэатра драмы Віктар Піскун, ён згуляў блісукча болей 20 роляй .

**Жлобін.** Суд пакараў былую дырэктарку Кіцінскай БШ-сад за крадзеж сабе двойчы 28 кубаметраў школьных дроў 2 гадамі абмежавання волі без накіравання на "хімію".

**Баранавічы.** У адной са школ горада былы вучань на калідоры напаў і моцна збіў 38-гадовага настаўніка рускай мовы і літаратуры, якога змясцілі на лячэнне ў бальніцу.

**Мінск.** Да дамашняга чэмпіянату свету па хакеі, па звестках газеты "Прэсбол", зборнай РБ стане кіраваць новы трэнер і галоўны кандыдат на пасаду зноў канадзец Глен Хэнлан.

## «Электраэнергія с 1 чэрвеня падаражэе на 16%



■ Паводле БелТА

**Тарыфы на электраэнергію з 1 чэрвеня павялічацца на 16%.**

**Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў №428 ад 30 мая 2013 года.**

Згодна з дакументам, электрычная энергія ў жылых дамах (кватэрах), абсталяваных электрычнымі плітамі, па аднаставачным тарыфе з 1 чэрвеня будзе каштаваць Br375,9 за кВт•г (цяпер — Br324,9 за 1 кВт•г), па дыферэнцыяваным тарыфе — Br263,1 за кВт•г у перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 (цяпер — Br227,4) і Br751,8 за кВт•г у перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 (цяпер — Br649,8).

Электраэнергія для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт падаражэе да Br442,4 за кВт•г у перыяд мінімальных нагрузак з 23.00 да 6.00 (цяпер - Br382, 4) і да Br1327, 4 за 1 кВт. гадз у астатні час сутак (цяпер - Br1147, 2).

Электрычная энергія, за выключэннем указанай у папярэдніх выпадках, па аднаставачным тарыфе з 1 чэрвеня абыдзецца жыхарам у Br442, 4 за кВт•г (цяпер — Br382, 4), па дыферэнцыяваным тарыфе - Br309, 7 за кВт•гу перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 (цяпер - Br267,7) і Br884, 8 за кВт•г перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 (цяпер — Br764,8).

Папярэдні раз тарыфы на электраэнергію для насельніцтва былі павышаны з 1 лютага 2013 года.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

**Казімеж ЗДУНОЎСКІ,**
**Генеральны дырэктар Польска-беларускай гандлёва-прамысловай палаты:**

"Зараз праблема нумар адзін - перасячы дзяржаўную граніцу, якая з кожным разам становіцца ўсё больш вострай.І гэта, на жаль, уплыў палітыкі, вынік нежадання з абодвух бакоў спрасціць пагранічныя і мытныя афармленні. Велізарныя чэргі на граніцы толькі шкодзяць нашым эканомікам.

Толькі ўявіце гендырэктара кампаніі, які едзе на працу ў сваю фірму ў Беларусь альбо ў Польшчу і мінімум сем гадзін стаіць у чарзе на граніцы… Я ўсё гэта праходзіў на асабістым вопыце. Такое становішча спраў можа адбіць усялякае жаданне да сумеснай работы, хоць у вас працуе звыш 550 польскіх фірм альбо з удзелам польскага капіталу. А для грузаперавозчыкаў з абодвух бакоў стала стандартным чакаць працэдуру афармлення грузаў па 24 гадзіны і болей. Гэта вельмі дрэнны стандарт узаемаадносін нашых краін сёння.

Няпростыя палітычныя адносіны паміж нашымі дзяржавамі ўплываюць і на двухбаковыя эканамічныя сувязі. Узаемны гандаль паступова і сістэмна рос з пачатку 2000-х гадоў і ў 2008 годзе дасягнуў амаль 3 млрд. долараў. А потым гэта лічба скарацілася амаль у 2 разы, а затым наступіла рэгрэсія…"

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Гаспадаркі вобласці сёлета са значным спазненнем пасадзілі бульбу і не змаглі ўвайсці ў леташні графік вясновай сяўбы лёну, на добры ўраджай разлічваць складана.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым хлебазаводзе запусцілі новую чэшскую лінію з газавай печкай па вытворчасці ў месяц да 130 тон папулярных у спажыўцоў неўскіх сушак.

**Браслаў.** З-за адсутнасці грошай на рахунку большую частку зарплаты працаўнікам ААТ "Мяжаны" і шэрагу іншых у раёне выдалі прадукцыяй Глыбоцкага мясакамбіната і райпо.

**Ушачы.** У цэнтры аграгарадка Арэхаўна побач з царквой адкрыўся 20-ты па ліку на Віцебшчыне дом сямейнага тыпу, чатыром прыёмным дзецям падарылі камп'ютар.

**Лёзна.** З віцебскага СІЗА № 2 даставілі на пункт пропуску "Заольша" і перадалі праваахоўным органам Расіі 55-гадовага авіядэбашыра С. Кабалава, які адсядзеў 2,5 месяцы.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала 56-гадовую гараджанку і яе маладзейшага беспрацоўнага знаёмага, якія на пару нажом падчас п'янага застолля забілі 62-гадовага гаспадара кватэры

**Расоны.** Ад удару маланкі днём у раённым-цэнтры загарэўся прыватны цэх па вытворчасці паліўных брыкетаў, агонь знішчыў 40 тон гатовай прадукцыі, акрамя гэтага пацярпеў дах будынка, абгарэлі сцены

**Шаркаўшчына.** Ля вёскі Курыловічы 44-гадовы мужчына ехаў на трактары і зрабіў наезд на 35-гадовую зямлячку, якая ад атрыманых траўм трагічна загінула на месцы здарэння.

**Чашнікі.** Спякотным днём вырашылі пакупацца двое братоў, вучняў 4 і 7-га класаў на рацэ Улла і старэйшы з іх утапіўся, цела яго знайшлі на глыбіні 2,5 метры ў 30 метрах ад берага.

**Верхнядзвінск.** З Белавежскай пушчы ў вальер паляўнічай гаспадаркі "Чырвоны бор" плошчай 80 гектараў перавезлі жыцць 10 зуброў, праз 2 гады іх адсюль выпусцяць на волю.

**Браслаў.** Днём на дарозе з райцэнтра на Мяжаны 39-гадовы вадзіцель іншамаркі зляцеў у кювет і перакуліўся, яго без прытомнасці дасталі з салона і даставілі ў раённую бальніцу.

**Віцебск.** На пляцоўцы каля бізнес-цэнтра "Маркасіці" на працягу двух дзён праходзіў абласны фестываль-кірмаш народных рамёстваў "Таямніцы майстэрства".

**Полацк.** У спякотны дзень на гарадскім стадыёне з'явіўся малады лось і правёў на зялёнай траве ў цяньку некалькі гадзін, потым яго злавілі сеткамі і адвезлі назад у лес.

**Віцебск.** Беспрацоўнага з прыгараднай вёскі Баршчоўка затрымала міліцыя, ён ілжыва патэлефананаваў аб быццам замініраванні 2 школ і гімназіі, адкуль у мэтах бяспекі эвакуіравалі ўсіх вучняў.

**Орша.** Дзяржаўны кантроль выявіў, што шэраг трэнераў ДЮСШ прафсаюзаў па веславанні камплектавалі свае групы толькі на паперы, а самі дзецкі ні разу не былі на трэніроўках.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Глыбоцкія вішні-прыгажуні майго юнацтва

■ Людміла Ардынская,
*в. Радзюкі.*

## Вішня белая

Ты чароўная, вішня белая,
Прыгажуняю расцвіла.
Нерашучая і нясмелая
Нечакана любоў прыйшла.
Пад той вішняю белай мілаю
Будзе любы мяне чакаць,
Ноч кароткая ўзмахне крыламі,
Час нам зораньку сустракаць.
Асыпаецца вішня белая,
Засцілаюць пялёсткі мяжу.
Пра каханне сваё нясмелае
Як сяброўцы я вішні скажу.
Вішня, вішанька, я шчаслівая,
Што кахаю, прызнацца хачу.
Хуткай птушкаю лёгкакрылаю
Над квітнеючым садам лячу.



## Вішня, вішанька ...

**Доўгачаканая і такая жаданая ўсёй прыродай вясна, нібы просячы прабачэння за спазненне, спачатку апранула ў зялёнае ўбранне сады і лясы, пакрыла сівыя пасля зімы палеткі сакавітай травой. А потым падаравала свету чысты, светлы, бела-ружовы цуд-неруш – квецень садоў. Яны адквітнелі, а ўспаміны - незабыўныя.**

Здаецца, больш прыгажэйшага, больш маляўнічага відовішча няма на зямлі ў траўні. Глыбоччына заўсёды славілася вішнёвымі садамі. Магчыма, тут для іх кліматычныя ўмовы спрыяльныя і глеба найлепш падыходзіць. І саджалі іх, напэўна, людзі, улюбёныя ў гэта прыгожае дрэўца, ягады якога вельмі карысныя для здароўя. Вось і Вішнёвы фэст мае адбыцца ў Глыбокім у ліпені.

У беларускім фальклоры, дакладней у песнях, дзе сімвалічна-паэтычнымі вобразамі дзяўчыны з'яўляюцца чырвоная каліна, ніцая вярба, тонкая рабіна, вельмі часта ўзгадваецца і вішня.

Памятаеце? "Зялёная вішня з-пад кораня выйшла, не аддай мяне, мама, дзе я не прывыкла". "Як у роднай матулькі жыла, як вішанька ў садочку цвіла". "Ой, вішнёвенькі сад, па саду хадзіла. Чаму ж мяне той не ўзяў, каго я любіла?" У адной з песень заможная маладзіца чакае вартага жаніха, таму што ў яе ёсць "і ставок, і млынок, і вішнёвы садок". І яшчэ: "Ой, ды асыпаецца вішнёвы сад, час табе, Ганулечка, на пасаг".

Народная творчасць сведчыць аб духоўным багацці нашых продкаў. Свята сваёй душы, у тым ліку замілаванасць і захапленне зямной прыгажосцю, яны імкнуліся перадаць нашчадкам.

Перад вокнамі маёй хаты на шаркоўшчынскай зямлі цвітуць вішні. Яны сапраўды нізкарослыя, ягады не буйныя і паспяваюць рана. І драбіны не трэба, каб абабраць ягады. А мне ўзгадваюцца глыбоцкія вішні каля бацькоўскай хаты.

У другой палове піцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя Савецкая вуліца пачынае актыўна забудоўвацца, пачынаючы ад самага касцёла. Хто забудоўшчыкі? Ды амаль усе вяскоўцы, гаспадары, якія мелі капейку, каб будавацца. Хто і свае дамы перавозіў. Гэта тычыцца і астатніх вуліц на ўскрайках горада.

Кнырко, Рыжы, Заяц, Зубко, Стоцік, Міцько, Юргель, Бабіч, Шымко – звычайныя прозвішчы простых і небагатых людзей Глыбоччыны.

Наша сям'я складалася з васьмі чалавек, і жыць у маленькім пакойчыку, які быў выдзелены бацьку у 1946 годзе гарсаветам у нацыяналізаваным доме пана Рычарда Конца, было немагчыма. Бацька прадаў карову, купіў лес і атрымаў пляц на Мураўёўцы, амаль насупраць потым разбуранай капліцы. Ён лічыў, што яму пашанцавала. Гэта была чыясьці сядзіба, хаты не было, мабыць, гаспадары выехалі ў Польшчу, а вось вішнёвы сад узбоч дарогі і па мяжы застаўся. Дрэвы былі высокія, прыгожыя. Ягады выспявалі буйныя, салодкія.

Памятаю, на пачатку жніўня нарадзіўся мой брат, самы малодшы, ён і цяпер жыве ў Глыбокім. Уночы была навальніца і моцны лівень. Ягад было многа, і раніцай мы збіралі ягады пад дрэвамі. Бабуля, памятаю, суседзям адносіла на варэнне. Мае вішні да жніўня на дрэвах не застаюцца. А тыя, глыбоцкія вішні-прыгажуні майго юнацтва, перад вокнамі бацькоўскай хаты не захаваліся. Дрэвы, як і людзі, непадуладны часу.

Але захавалася памяць пра цудоўнае імгненне жыцця – квецень вішнёвага саду і светлае пачуццё - каханне. Яна занатавалася ў паэтычных радках.

■ Ул. Скрабатун

Анюта Чарапкоўская:

# Такіх аграномаў як Баляслаў Лапыр сёння ўжо няма!

У адным са студзеньскіх нумароў нашай газеты быў апублікаваны матэрыял «Баляслаў Лапыр – аграном і патрыёт» (№5(669) за 31 студзеня 2013 года). Матэрыял меў рэзананс сярод чытачоў. Тэлефанавалі. Адзін з чытачоў пытаўся: «Ці ведаеце вы, што на месцы сядзібы Лапыра да сённяшніх дзён захаваўся падвал дома?»

– Так, ведаю,– кажу.

А вось сусед спадар Віталь Мацкевіч, патрабуе ад аўтара гэтых радкоў працягу тэмы. Хоць самога агранома Лапыра ён не бачыў – малы яшчэ быў – але наслуханы пра яго. Таксама нагадвае, што падвал захаваўся, а дом разабралі і прывезлі ў Глыбокае, з яго бярвенняў узвялі новы на вул. Кірава.

Так, тэма займела працяг... У сувязі з маючым адбыцца Вішнёвым фэстам у Глыбокім, гэтую тэму падхапілі мінскія і віцебскія журналісты. Некаторыя нават прасілі здымкі квітнеючых Лапыровых вішняў. Журналістаў вельмі зацікавіў той факт, што ў Вішнёвага фэсту ёсць прадвеснік – аграном Баляслаў Лапыр, які завёў тут высакаякасныя гатункі вішняў. Гэта засталося ў людской памяці, і вішні гэтыя з тых часоў так і клічуць – Лапыровыя!

Газетная журналістыка і радыёжурналістыка карэнным чынам адрозніваецца. Калі матэрыял «Баляслаў Лапыр – аграном і патрыёт» можна лічыць самадастатковай газетнай публікацыяй, то для радыёжурналістаў патрэбныя жывыя галасы людзей, якія памятаюць легендарнага агранома.

Прыехаў у Глыбокае і журналіст «Радыё Свабода» Зміцер Бартосік, якога зацікавіла тэма Вішнёвага фэсту ў Глыбокім, і, зразумела, асоба самога агранома Баляслава Лапыра. Прыйшлося аўтару гэтых радкоў і Зміцеру Лупачу дамамагаць шукаць сведкаў тых ужо далёкіх часоў. Дапамог шмат і Кастусь Бахір у якасці рамізніка.

Нам параілі 90-гадовую Анюту Чарапкоўскую, жыхарку Шуневічаў. Да яе мы і завіталі...

(Так як пытанні задаваў менавіта Зміцер Бартосік, то пакідаем стылістыку радыёэфіру і правапіс тэксту, які напісаны паводле радыёперадачы.)



**Зміцер Бартосік, паэт, бард і журналіст «Радыё Свабода» слухае ўспаміны 90-гадовай жыхаркі Шуневічаў Анюты Чарапкоўскай пра агранома Баляслава Лапыра.** *Фота Ул. Скрабатуна, красавік 2013 г.*

### Гаварыў па-беларуску. Не палячыў.

***– Ці памятаеце вы такога агранома Баляслава Лапыра?***

— Лапыр? Помню, помню. Ведаю яго. Добры чалавек быў. Да людзей добры быў. Мой мужык хадзіў на работу да яго. І мужык мой хадзіў да яго на работу, і сястра. Лапырка прыяжджала да сьвякроўкі да маёй. І гаварыла як просты чалавек. Не задавалася.

***— Кажуць, ён дапамагаў людзям.***

— Шарабаі, такая ёсьць вёска. Дык у іх цыбуля не расла. Дык ён пайшоў да іх. Нічога не рабіў. Узяў на язык зямлі. І сказаў — вось тут садзіце. І пасьля Шарабаі пастаянна прадавалі на кірмашы цыбулю. Во - аграном! На язык узяў зямлі і сказаў.



Баляслаў Лапыр

***— Ён гаварыў па-беларуску?***

— Гаварыў. Не палячыў. І вішні, і сьлівы, і яблыкі. У яго такія сарты былі, што ў вёсцы такіх не было.

***— А вы самі каштавалі ягоныя вішні?***

— Я толькі маліны. Каштавалі. І выкопвалі. Як бальшавікі прыйшлі, мы яго саджанцы выдзіралі і садзілі. Як яго няма.

***— Гаспадара няма. Дом стаіць пусты. Пасьля вайны. І людзі пайшлі браць саджанцы?***

— Так моцна і ня бралі. Баяліся. Ці мала, што гаспадара няма. Тут жа саветы! Баяліся!

***— Зьнешне ён быў інтэлігент. Ён быў падобны да пана? Да каго?***

— Да настаўніка. Ён не паніўся. Вось настаўнік — падобна. Цяпер жа няма гэткіх аграномаў. Дзе ж яны цяпер? А гэтыя бегуны — зь іх аграном, як і зь мяне. Я яшчэ больш за іх разумею. Бо я працавала на гэтай зямлі.

***Калі я часам чую ад аднагодкаў, што ў Беларусі ніколі не гаварылі на «тарашкевіцы», мне хочацца іх паслаць на Віленшчыну. Дзе да гэтае пары старыя людзі атрымліваюць «пЭнсію» і ходзяць у «магазЫны». Старая Ганна, і сьмех і грэх, абураецца, што ў яе працоўным стажы не ўлічылі два гады працы падчас нямецкай акупацыі.***

— Я і пры немцах нарабілася. У цагельні. Два гады адрабіла, і пэнсіі ж не дабавілі. А мне ўжо 91-шы год.

***— Пры кім было страшней? Пры бальшавіках ці пры немцах?***

— І там баяліся, і там баяліся. Нам трэба баяцца.

— Самых лепшых зьнішчылі.

— Засталася шавер.

***— Засталася?***

— Шавер нішчая. Нікчэмныя людзі. Во гэткія, як я. Нявучаныя недапекі. Добрых людзей яны ўбралі.

***Вось табе і нечаканая лінгвістычная знаходка. «Шавер». Нікчэмныя людзі. Але ж засталася не адна шавер. І ці ня дзякуючы дзейнасьці Лапыра па вайне ў Глыбокім паўстала моладзевая падпольная арганізацыя «Саюз беларускіх патрыётаў»?***

**Сям'ю пана Вярцінскага, як і многіх суседзяў, Баляслаў Лапыр вызваліў ад вывазу ў Нямеччыну.**

### «Штандар наш бел-чырвона-белы»

***Тыя часы ўспамінае 85-гадовы Пётар Альбінавіч Вярцінскі. Былы сусед агранома.***

— Ён такіх угнаеньняў дасьць, што ўдвайне ў яго вырастала. Пры немцах ён быў у вышэйшых… У райвыканкаме.

***— У акупацыйным райвыканкаме рабіў.***

— Так. Добры чалавек быў. Ён нават пісаў кнігі пабеларуску. Кніга ў яго была, «Беларуская ніва», здаецца. Беларускі алфавіт ня гэткі быў. Была лацінка. Гэта цяпер кірыліца. І ён на беларускай лацінцы выдаваў кнігі па сельскай гаспадарцы. А вось дзе ён падзеўся? Ці яго забілі? Ці яго вывезьлі? І пры польскай уладзе быў, і пры нямецкай уладзе быў. Толькі з савецкай уладай не дружыў.

***Зь дзяцінства Пётар Альбінавіч не расстаецца з губным гармонікам, на якім яго навучыў граць нямецкі салдат. Урокі музыкі адбываліся дома. Сям'ю пана Вярцінскага, як і многіх суседзяў, Баляслаў Лапыр вызваліў ад вывазу ў Нямеччыну.***

*Заканчэнне на стар. 11*



**Кліменцій Кожан,** краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

# Андрэю Георгіевічу Майсяёнку – 70

**Заканчэнне.**
***Пачатак у №22(686) за 2013 г.***

**4**

Адначасова А.Г. Майсяёнак актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю. Некалькі гадоў ён кіраваў Гродзенскай абласной радай маладых вучоных і спецыялістаў, абіраўся дэпутатам Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў, дзе кіраваў камісіяй па пытаннях навукі і культуры. А.Г.Майсяёнак – сябра праўлення Беларускага фонду культуры, сябра Гродзенскага навуковага таварыства гісторыкаў медыцыны. Шмат гадоў вучоны з'яўляецца сябрам Беларускага навуковага таварыства, сябрам бюро Аддзялення медыцынскіх навук і камісіі па прэміях НАН Беларусі. Актыўна працуе ў рэдкалегіі часопіса "Весці Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. Серыя біялагічных навук."

**5**

Творчы партрэт А.Г. Майсяёнка будзе няпоўным, калі не сказаць пра яго захапленне краязнаўствам. Ён – глыбока дасведчаны, улюбёны ў гісторыю Беларусі, сваёй малой радзімы Глыбоччыны, блізкай яму Гродзеншчыны. Нездарма яго абралі старшынёй Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Ён актыўна працуе ў Таварыстве аховы помнікаў гісторыі і культуры. Цікавасць да краязнаўства ўзнікла даўно, у далёкія 1960-я гады. Пачаў А.Г.Майсяёнак з вывучэння гісторыі медыцыны. Пазней узяўся за вывучэнне гісторыі Беларусі, яе славутых людзей, помнікаў архітэктуры, ландшафтных запаведнікаў.

А.Г.Майсяёнак лічыць сябе вучнем прафесара М.А.Ткачова ў даследаванні гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. У газетах, часопісах сталі з'яўляцца шматлікія грунтоўныя артыкулы А.Г.Майсяёнка, а потым у гісторыка-дакументальных хроніках "Памяць" (Браслаўскі, Глыбоцкі, Навагрудскі раёны, г. Гродна), у гістарычных зборніках "Свіцязь", "Браслаўскія сшыткі", "Браслаўскія чытанні", "Навагрудскія чытанні", у энцыклапедычных выданнях.

А.Г.Майсяёнак быў старшынёй аргкамітэта Міжнародных гісторыка-краязнаўчых чытанняў у Лідзе (1993), з'яўляўся адным з заснавальнікаў Беларускага фонду Адама Міцкевіча. З 1991 года ён актыўна займаецца стварэннем нацыянальнага фонду рукапісаў, старадрукаў, рэдкай кнігі і перыёдыкі імя Я.Л.Храптовіча. Выступаў па тэлебачанні і радыё па праблемах вывучэння культурна-гістарычнай спадчыны.

А.Г.Майсяёнак садзейнічаў стварэнню і працы абласных і раённых музеяў, адкрыццю помнікаў славутым беларусам. Ён перадаў многія экспанаты і кнігі Гродзенскаму гісторыка-этнаграфічнаму музею, Германавіцкаму музею мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча і іншым музеям Беларусі.

Прафесар часта наведвае Шаркоўшчынскі раён. Тут працавалі яго бацькі. У Шаркоўшчыне яны пахаваны. Наша зямля блізкая для Андрэя Георгіевіча, таму ён прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы адкрыцця музея мастацтва этнаграфіі ў Германавічах. У час святкавання 100-годдзя з дня нараджэння Язэпа Драздовіча (14 кастрычніка 1988 года) прыехаў у Германавічы. Выступіў з дакладам пра апошнія гады жыцця вандроўнага мастака. І ў далейшым выступаў з цікавымі дакладамі пра дзейнасць Язэпа Драздовіча ў час правядзення навукова-краязнаўчых канферэнцый, якія праходзілі ў Германавічах.



**Разам з Барысам Кітом, акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Франкфурце (2012 г).**
Сёлета 6 красавіка Барысу Кіту, вядомаму фізіку, канструктару амерыканскай ракетнай тэхнікі, не без удзелу якога астранаўты высадзіліся на Месяц, споўнілася – 103 гады.
**Барыс Кіт: «Мы з Андрэем нарадзіліся ў Глыбокім 1 чэрвеня: ён першы раз, а я другі (пры нямецкай акупацыі адсядзеў у камеры смяротнікаў цэлы месяц).**

**6**

За сваю паспяховую навуковую і грамадскую дзейнасць А.Г.Майсяёнак быў узнагароджаны медалём "За трудовое отличие", граматамі Прэзідыума НАН Беларусі, Міністэрства аховы здароўя РБ, Рэспубліканскага Савета прафсаюза работнікаў вышэйшай школы і навуковых устаноў, абласных і гарадскіх органаў дзяржаўнага кіравання і аховы здароўя. Адзначаны вышэйшай узнагародай ВЛКСМ "Трудовая доблесть".

А.Г.Майсяёнак – лаўрэат міжнароднай польскай прэміі за беларуска-польскае супрацоўніцтва ў галіне культуры. Да свайго 60-годдзя атрымаў (адначасова з пісьменніцай Вольгай Іпатавай) прэмію Барыса Кіта, якая была ўручана на юбілейнай вечарыне 30 мая 2003 года ў Гродне, у сценах старажытнага замка. У сувязі з 60-годовым юбілеем А.Г.Майсяёнак атрымаў ганаровае званне Міжнароднага біяграфічнага інстытута "Чалавек года – 2003".

Я знаёмы з Андрэем Георгіевічам Майсяёнкам даўно, больш 25 гадоў. Сустракаліся на краязнаўчых канферэнцыях у Мінску, Гродне, Браславе, Мёрах, Глыбокім, Германавічах. Перапісваемся, расказваем адзін аднаму аб краязнаўчых навінах, знаходках.

Многае яшчэ можна было б расказаць пра А.Г.Майсяёнка – чалавека энцыклапедычных ведаў. Вельмі добра сказала пра яго, як выдатнага вучонага і краязнаўцу пісьменніца Лідзія Савік:

"Лёс, творчасць, навуковая і грамадская дзейнасць Андрэя Георгіевіча Майсяёнка, закаханага ў гісторыю і прыгажосць Радзімы – яшчэ адно сведчанне таго, што беларуская зямля давала і дае свету многіх таленавітых людзей, якімі можа ганарыцца любая нацыя. Талент Андрэя Майсяёнка праяўляецца ва ўсім і, найперш, у ягонай няўрымслівай, аптымістычнай натуры, добразычлівых адносінах да людзей, уменні без скаргаў пераадольваць складанасці і розныя нягоды жыцця, незвычайнай камунікабельнасці, знешняй абаяльнасці, унутраным духоўным багацці, імклівасці рабіць дабро, пакуль жывеш на гэтай шматпакутнай і такой дарагой сэрцу зямлі."

Хочацца пажадаць Андрэю Георгіевічу Майсяёнку моцнага здароўя, даўгалецця, далейшых поспехаў на ніве беларускай навукі і станаўлення нацыянальнай свядомасці ў нашым грамадстве.



**Прафесар Андрэй Майсяёнак (стаіць справа у 2-м шэрагу) сярод Майсяёнкаў у в. Марцыбыліна каля Глыбокага. 31 жніўня 2012 г.**



АБДБ
Arbeitskreis Belarussisch-Deutsche Begegnungen e.V.

Der zu Ehren unseres Mitbegründers Prof. Dr. Boris Kit, Belarus/USA/Deutschland, ausgeschriebene

BORIS-KIT-PREIS 2003

wird in Würdigung seiner Verdienste um die Weiterentwicklung seines Landes, auch auf medizinischem Sektor, um die Aufbereitung der Geschichte und um den Studentenaustausch zwischen der Republik Belarus und der Bundesrepublik Deutschland verliehen an

*Prof. Dr. Andrej Georgiewitsch Moisseenok*

Mitglied der Akademie der Wissenschaften, Minsk und Grodno

Minsk und Berlin, den 29. Mai 2003

Dr. Johannes Schlootz   Werner Falk   Margarita Hoeckner   Jutta Rohde

**Дыплом імя Барыса Кіта, які ўручаны прафесару Андрэю Майсяёнку.**

# У Варшаве адкрыліся фотавыставы, прысвечаныя Мірскаму і Нясвіжскаму замкам Беларусі

**28 мая ў Варшаве ў межах Дзён культуры Беларусі ў Польшчы адкрыліся дзве фотавыставы, якія прэзентуюць аб'екты культурнай і гістарычнай спадчыны Беларусі, Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА — замкавы комплекс «Мір» і нацыянальны гістарычна-культурны музей-запаведнік «Нясвіж».**

Мерапрыемства арганізавана пасольствам Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча сумесна з музеем «Замкавы комплекс «Мір», нацыянальным гістарычна-культурным музеем-запаведнікам «Нясвіж» пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.

Як паведамляе прэс-служба беларускага пасольства у Польшчы, адна з выстаў у выглядзе фотапанарамы замкаў Беларусі размешчана на агароджы Батанічнага сада Варшаўскага ўніверсітэта, другая — на стацыянарных планшэтах у цэнтры горада, у Кракаўскім прадмесці.

Удзел у адкрыцці выстаў узялі прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса замежных краін, дзяржаўных і грамадскіх аб'яднанняў, культурных устаноў Польшчы, турыстычнага бізнесу, беларуская грамадскасць у Варшаве. Права ўрачыстага адкрыцця выставы было дадзена прадстаўнікам роду Радзівілаў.

«Прысутныя на адкрыцці выставы госці далі высокую ацэнку мерапрыемству, — адзначае прэс-служба дыпмісіі. — Асаблівую зацікаўленасць выстава выклікала ў беларусаў Польшчы, якія падкрэслілі важнасць арганізацыі падобных мерапрыемстваў дзеля папулярызацыі за мяжой беларускай культуры».

Выстава будзе працаваць у Варшаве на працягу месяца, у далейшым плануецца паказаць яе ў іншых гарадах Польшчы.

*Андрэй Серада, БелаПАН*

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Знятыя шматлікія забароны на лоўлю рыбы

Вось і наступіла доўгачаканая рыбаловамі-аматарамі лета, знятыя шматлікія забароны на лоўлю рыбы. У сувязі з чым, лічым неабходным нагадаць пра неабходнасць выконваць Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь. Да прыкладу, нельга лавіць рыбу больш за 10 кручкоў аднachасова, за выключэннем вадаёмаў адмыслова вылучаных для вядзення інтэнсіўнага рыбалоўства, (ад 10 да 20 кручкоў, тролінг, падводнае паляванне), выкідваць смецце, ажыццяўляць стаянку транспартных сродках бліжэй 30 метраў ад берагавой лініі вадаёма, мыйку аўтамабіляў каля вадаёмаў, ажыццяўляць лоўлю рыбы, на якую ўведзена забарона ў дадзены перыяд (сом з 1 чэрвеня па 31 чэрвеня, рак да 15 ліпеня). З наступленнем лета і здыманнем абмежаванняў на выкарыстанне плаўсродкаў дазволена выкарыстанне лодак, у тым ліку і з маторамі, многія рыбаловы ажыццяўляюць лоўлю рыбы інтэнсіўным спосабам, але на вадаёмах, дзе такі спосаб лоўлі забаронены, а таму міжрайінспекцыя нагадвае пра вадаёмы, на якіх інтэнсіўны спосаб лоўлі дазволены.

Паводле рашэння Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта ад 26 лютага 2010 года № 243, для вядзення інтэнсіўнага спосабу лоўлі рыбы штогод з 1 чэрвеня ў фондзе запасу рыбалоўных угоддзяў у светлы час сутак вылучаны наступныя вадаёмы: **Алойзберг, Сетаўскае, Вялец, Арэхаўскае, Мядзвёдкаўскае, Акунёўскае, Вялікі Супонец. Дварэцкае, Забельскае, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае, Івесь, Псуя, Станульскае, Мушкат, Камінскае.**

Пры лоўлі на ўказаных вадаёмах інтэнсіўным спосабам рыбалоў абавязаны мець пры сабе квіток рыбалова, яго можна набыць у Глыбоцкім раённым Таварыстве паляўнічых і рыбаловаў. У выпадку адсутнасці квітка рыбалова ці пры яго наяўнасці, але з няплатай штогадовай мыты, грамадзяне нясуць адміністрацыйную адказнасць па ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», штраф ад 10 да 50 базавых велічынь.

На тэрыторыі раёна маюцца арандаваныя вадаёмы, дзе арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, гэта азёры: **Карпінскае і Бярозаўскае,** якое арандуецца СФГ «Карпікі», возера **Крывое-1** паблізу в. Лявонавічы, якое арандуецца ТАА «Сервік», возера **Чачалі,** што арандуецца ПП «Аграбізнескансалт», возера **Свядаўскае**, якое арандуецца ФГ «Свідава», возера **Гулідаўскае** што арандуецца ТАА «Старт» Мінскага раёна, усе даведкі пра аплату можна даведацца ў арандатараў вадаёмаў.

На ўсіх астатніх вадаёмах раёна можна вольна лавіць рыбу вудамі і донкамі з агульнай колькасцю кручкоў, якая не перавышае 10 штук.

Нагадваем усім рыбаловам-аматарам пра строгае выкананне правіл рыбалоўства, вылоўліванне асобных відаў рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, напрыклад, шчупак не меней 35 см., а таксама вага вылаўленай рыбы не павінна перавышаць норму 5 кг у суткі на аднаго рыбака. За вылоўліванне рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры або вага якой перавышае ўсталяваную правіламі норму, настае адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.35 Ко АП Рэспублікі Беларусь ад папярэджання да 20 базавых велічынь з пакрыццём урону (за 1 маламерную шчупака 100 тыс. рублёў). Пры выяўленні ў вадаёме забароненых прылад рыбалоўства, сетак, мярожаў і г.д. рыбаловы не маюць права іх канфіскоўваць, а таксама канфіскоўваць з іх рыбу, неабходна паведамляць пра выяўленне сетак у міжрайінспекцыю. На жаль, яшчэ шмат ахвотнікаў паставіць сеткі і налавіць рыбкі. Так, 30 траўня супрацоўнікамі міжрайінспекцыі на рацэ Заражанка паблізу в. Ажуны Пастаўскага раёна затрыманы мясцовы жыхар, які пры дапамозе лесачных сетак здабыў 6 асобінаў ліна. Зараз браканьера чакае штраф і пакрыццё прычыненага прыродзе ўрону ў памеры 3 млн. 600 тысяч рублёў.

Просьба да рыбаловаў-аматараў, не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю Вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжрайінспекцыі, пры змене дзейсных Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ці іншага заканадаўства, якое рэгламентуе дадзеныя правілы, уся інфармацыя будзе размешана ў сродках масавай інфармацыі.

**Паспяховай усім рыбалкі!**

Пра ўсе парушэнні можна паведамляць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

**Фотафакт**:

# Жыхар Мядзела ў апошні дзень вясны назбіраў чатыры кошыкі баравікоў



**Мікалай Русаковіч пасля адной з паездак за баравікамі.** *Фота Алеся Высоцкага.*

**Чатыры кошыкі баравікоў назбіраў 31 мая жыхар Мядзела Мікалай Русаковіч, піша «Рэгіянальная газета».**

— Першы раз у жыцці вясной баравікі збіраў: сапраўднае веснавое дзіва! — дзеліцца заўзяты грыбнік. — 28 мая паехаў у лес венік звязаць. Дай, думаю, пахаджу па грыбных мясцінах, можа, якую лісічку знайду. А там — баравікі! Ды і шмат разам сядзіць.

А 31 мая Мікалай Русаковіч некалькі разоў у лес з'ездзіў: прайшоўся па сваіх мясцінах каля Шымак, Пехуроў, Мікасецка. Чатыры кошыкі баравікоў набраў.

— Гэта баравікі-каласавікі, — тлумачыць ён. — Яны з'яўляюцца, як жыта ў колас пойдзе. Яшчэ як пад стол хадзіў, збіраў такія. Звычайна ў пачатку ліпеня збіраў каласавікі, а тут – во як рана выскачылі. Каб мне хто сказаў, не паверыў бы. І як людзям гавару — не вераць. А ўжо як пакажу, у далоні пляскаюць.

*Алесь Высоцкі, «Рэгіянальная газета».*

■ **А. Андрыеўскі,** *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

# Дачны сезон у разгары

Лета. Усе спяшаюцца: хто на дачу, хто ў лес, а хто ў вёску, да родных і блізкіх. Усім хочацца папесціцца пад пякучымі прамянямі сонца і абавязкова дзе-небудзь на ўлонні прыроды. Асабліва павялічваецца прыток адпачывальнікаў у гарачае сонечнае надвор'е. Але вось бяда: шматлікія адпускнікі, турысты, унукі, што прыехалі на вакацыі да бабулі з дзядулем, не адрозніваюцца дысцыплінаванасцю, сабранасцю і асцярожнасцю. Адны разводзяць вогнішчы ў лесе ў не адведзеных для гэтых мэт месцах, іншыя «мудруюць» у сваіх дачных доміках з электрапрыборамі, прыборамі ацяплення і іншай тэхнікай. Трэція, самыя юныя, адпачывальнікі ,адчуўшы ў вёсцы волю, гуляюць з агнём паблізу пабудоў... А ў выніку ўсё гэта прыводзіць да непапраўнага, да вялікай бяды – пажару.

Жыхароў вёскі М. устрывожыла страшная вестка: «Гарыць!». Сталася, што ўнукі, якія гасцілі ў бабулі, забраліся ў адрыну і падпалілі яе. Агонь ахапіў пабудову. Але своечасова падаспелі выратавальнікі з размешчанай непадалёку часткі і змаглі выратаваць дзяцей. Добра, абышлося без ахвяр. А калі б... І такіх выпадкаў у кожны летні сезон не адзінкі. Таму ўзнікае пытанне: «Паважаныя грамадзяне, дакуль Вы будзеце рызыкаваць, парушаючы правілы пажарнай бяспекі, пакідаючы без нагляду непаўналетніх дзяцей? Дакуль будзеце падвяргаць небяспецы сваё жыццё і жыццё іншых людзей?».

Неабходна таксама адзначыць, што з наступленнем лета павялічваецца небяспека ўзгарання ў лясах і на тарфянішчах. Прычына гэтых пажараў часцей за ўсё – непагашанае вогнішча, кінуты на зямлю непагашаны недакурак ці запалка.

Каб не здарылася трагедыі, каб не азмрочыўся адпачынак, выконвайце ўсе меры засцярогі.

Дачны сезон – цудоўны час! Не псуйце самі сабе адпачынак.

# Вынікі нагляднай дзейнасці ДПН Глыбоцкага РАНС

У траўні месяцы 2013 года інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях завершаны праверкі 3-х аб'ектаў: адкрытага акцыянернага таварыства «Віцебскі абласны тэхнагандлёвы цэнтр «Гарант» на тэрыторыі г. Глыбокае (в.а. кіраўніка Поніч Л.В.), прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «Псуеўскі» (дырэктар Гайдар А.В.), прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «Пан Круль» (дырэктар Чачукевіч С. В.).

Пры правядзенні праверкі ААТ «Віцебскі абласны тэхнагандлёвы цэнтр «Гарант» на тэрыторыі г. Глыбокае выяўлены парушэнні нормаў і правілаў пажарнай бяспекі (далей – парушэнні):

- будынак не ў поўным аб'ёме забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння;
- у будынку над дзвярамі эвакуацыйных выйсцяў адсутнічаюць надпісы «ВЫЙСЦЕ», якія свецяцца;
- дапушчаецца загрувашчванне шляхоў эвакуацыі.

Пры правядзенні праверкі ПГУП «Псуеўскі» выяўлены наступныя парушэнні:

- дапушчаецца перазагрузка складскіх памяшканняў таварам, тарай, пакавальнымі матэрыяламі;
- халадзільнікі ў будынку крам падключаны да электрасеткі праз падаўжальнікі;
- у будынку крамы «Спатканне» загрувашчаны падыход да прыёмна-кантрольнага прыбора аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі.

Пры правядзенні праверкі ПГУП «Пан Круль» выяўлены парушэнні:

- будынак крамы не забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння;
- у будынку крамы план эвакуацыі людзей і матэрыяльных каштоўнасцяў на выпадак узнікнення пажару патрабуе дапрацоўкі;
- у будынку крамы адсутнічаюць індывідуальныя сродкі абароны органаў дыхання і электрычныя ліхтары.

Па выніках праведзеных праверак вызначаны тэрміны ўхілення парушэнняў, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты кіраўнікі ўсіх правераных суб'ектаў.

*Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС*

# МНС інфармуе

**на 04.06.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 496;
Гібель людзей – 69, з іх 1 дзіця;
Урон – 2408,2 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 118.2 руб.

# Патрыярх Кірыл наведае Беларусь 29-30 ліпеня, у Мінску будзе вялікая служба

**Патрыярх Маскоўскі і ўсёй Русі Кірыл прыедзе ў Мінск 29 ліпеня для ўдзелу ва ўрачыстасцях у гонар 1025-годдзя Хрышчэння Русі, паведаміў сёння журналістам намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік.**

«У Мінску 29 ліпеня пройдзе літургія з удзелам Патрыярха Кірыла і кіраўнікоў памесных праваслаўных цэркваў»,— сказаў віцэ-прэм'ер. Чакаецца, што ва ўрачыстасцях у Мінску возьмуць удзел каля 10 тыс. чалавек.

Вікарый Мінскай епархіі епіскап Барысаўскі Веніямін удакладніў, што Патрыярх Кірыл прабудзе ў Мінску да 30 ліпеня ўключна.

*Паводле БелТА*

